



# DISTRICTUS
# ПАВЕТ

ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ

№ 4 (63) КРАСАВІК 2008 г.




# ЛІТОЎСКІ ПОГЛЯД НА МАГДЭБУРГСКАЕ ПРАВА ДЛЯ БРАСЛАВА

**У нумары:**



*У беларускіх выданнях часта сустракаюцца звесткі, што Браслаў атрымаў няпоўнае магдэбургскае права яшчэ ў 1500 г. У даследчыкаў гэтыя звесткі выклікаюць абгрунтаваныя сумненні. Друкуем звесткі пра гісторыю магдэбургіі Браслава літоўскага гісторыка Эдмундаса Рымшы. Гэта фрагмент яго кнігі* **"Lietuvos didžiosios Kunigaikštystės miestų antspaudai"***(Vilnius, 1999). Тэкст падаецца з нязначнымі скарачэннямі. Шчырая ўдзячнасць Міколе Паўловічу (Даўгаўпілс) за копіі адпаведных старонак кнігі і Андрусю Храпавіцкаму (Глыбокае) за пераклад з літоўскай мовы.*

Хоць Браслаў ад сярэдзіны XVI ст. быў павятовым цэнтрам Віленскага ваяводства, але правоў самакіраваньня да канца XVIII ст. ня меў. Праўда, некаторыя аўтары, абапіраючыся на зьвесткі пра прывілеі 1792 г., сьцьвярджаюць, што правы Магдэбургскага места яму надаў вялікі князь Аляксандар 8 кастрычніка 1500 г. На самой справе, у прывілеі 1792 г. пададзеная дата прывілею Аляксандра 26 лістапада 1500 г., але ў ім Магдэбургскія правы ня згадваюцца, напісана толькі "*пра места Браслаўскае, якое мае ўласнасьць спадчыннай зямлі*". А гэта яшчэ не азначае, што места было самакіраваным.

Разам з тым варта адзначыць, што калі Чатырохгадовы сойм пачаў разглядаць пытаньне гараджанаў, Браслаў вельмі актыўна ўцягнуўся ў гэты працэс. Ужо 27 лістапада 1789 г. ягоныя дэлегаты Ян Сяліцкі і Язэп Рынкевіч у Варшаве падпісалі Польска-Літоўскі дзяржаўны акт пра саюзы гарадоў. Як толькі быў прыняты закон пра гарады, 24 чэрвеня 1791 г., у Браславе адбылася адкрытая гарадская сэсія, падчас якой было створанае самакіраваньне, выбраныя службоўцы на пасады ў магістраце.




**Тытульны ліст Канстытуцыі 3 Траўня 1791 г., якая гарантавала карыстанне месцічамі магдэбургскім правам**

У той жа час лаўнікам быў абраны вышэйзгаданы Я.Сяліцкі, а войтам - шляхціц Вінцэнт Александровіч. Яны 19 ліпеня бралі ўдзел у сэсіі Віленскага магістрату, які іх абодвух паслаў у Браслаўскі павет агітаваць за стварэньне самакіраваньняў у іншых гарадах. Такім чынам Браслаў стаў першым сярод гарадоў Вялікага Княства Літоўскага, што падчас Чатырохгадовага сойму стварыў органы самакіраваньня. А калі надыйшоў час, афіцыйна выдзелены на выбары, 1-2 жніўня Браслаўскі магістрат быў толькі папоўнены новымі службоўцамі. Гэтым дзеяньням спрабаваў рабіць супраціў Браслаўскі староста Ідзі Гільзен, нават быў зьдзейсьнены напад на горад, аднак месьцічы пасьпяхова абараніліся.

Уладар Станіслаў Аўгуст пацьвердзіў Браславу правы вольнага места толькі ў сярэдзіне 1792 г., калі ў павет увайшлі расійскія войскі пад кіраўніцтвам генэрала Юрыя Далгарукава. Напачатку не сьпяшаліся узаконьваць самакіраваньне, відаць, праз тое, што павятовыя і соймікавыя цэнтры, паводле Соймавай згоды, маглі іх утвараць і без прывілеяў, якія было паабяцана выдаць пазьней.

У прывілеі Станіслава Аўгуста ад 2 чэрвеня 1792 г., арыгінал якога захоўваецца ў бібліятэцы Літоўскай акадэміі навук у разьдзеле Рукапісаў, абмаўляючы гарадскі герб і пячатку, сьцьвярджалася: "*А каб тое места Браслаўскае, ставячы пячатку як на судовых, так і гарадскога кіраваньня спраўных выпісках і афіцыйных пісьмах, мела сапраўдную пашану, яму надаем такі герб, які тут можна пабачыць намаляваным, гэта Божы Провід; гэты герб дазваляем таму месту выкарыстоўваць на пячатках і усялякіх знаках*". (Супрацоўнікі Браслаўскага музея адшукалі гэты арыгінал прывілея ў каталагу бібліятэкі, але пабачыць дакумент не здолелі, бо на гэта патрабаваўся асобы дазвол - **Рэд.**)

У той самы час, у сувязі з перамогай Таргавіцкіх канфэдэратаў, праца Браслаўскага самакіраваньня мусіла быць прыпыненая. Яна аднавілася найверагодней толькі пасьля Гарадзенскага Сойму 1793 г. У пазьнейшых крыніцах ізноў пачынаюць згадваць службоўцаў магістрату. Напрыклад, 21 сакавіка 1795 г. войт Браслаўскага вольнага места Я.Сяліцкі, лаўнік Тамаш Кіркілевіч ды іншыя месьцічы зьвярнуліся ў Распарадчую камісію з просьбай вызваліць іх ад выплатаў, таму што 22 траўня 1794 г., падчас паўстаньня Касьцюшкі, горад спалілі расейцы, пакінуўшы ледзь не некалькі дамоў.

Пасьля трэцяга падзелу, падчас расейскага валадараньня, Браслаў паступова страціў сваё значэньне. Ужо ў 1796 г. павятовы цэнтар быў перанесены ў Відзы, у 1801-1808 гг. ізноў на кароткі час вернуты ў Браслаў. Пазьней Браслаў атрымаў у Расійскай Імпэрыі назву "заштатнага мястэчка". Пра гарадскую арганізацыю тых часоў і ейныя пячаткі ня маем аніякіх зьвестак.



Станіслаў Аўгуст праз тры гады пасля падпісання прывілея Браславу страціў свой трон. На гравюры 1795 г., пад каралём, пазбаўленым кароны, змешчана Вока Божага Провіду. Браслаў у той час быў суцэльным папялішчам.

Вядомы толькі адзін малюнак Браслаўскай гарадской пячаткі 1792 г. Акрамя яго, О.Гедэман паведамляў пра яшчэ адзін малюнак пячаткі, дыямэтрам 61 мм, называны гербам. На ім бачым Божы Провід, вакол якога напісаная легенда (тлумачэньне) па-польску: * PIECZĘC * MIASTA * BRASŁAWIA * (пячатка места Браслава). Мяркуючы па малюнку, яго, як і пячаткі местаў Друя, Перабродззе і Угар, намаляваў той самы аўтар. Божы Провід ён хутчэй за ўсё ўзяў з копіі прывілею 1792 г., якая выкарыстоўвалася. У ёй пісар гэты сымбаль намаляваў пяром. А легенду (тлумачэньне) стварыў на свой уласны погляд, бо яна ня мае нічога супольнага з тыхчасовымі афіцыяльнымі легендамі гарадскіх пячатак, зацьверджанымі Соймам. Гэтую пячатку можна было б і ня згадваць, калі б яна ня ўводзіла ў зман іншых дасьледчыкаў16.

Легенда па-польску * PIECZĘC * MAGISTRATU * MIASTA * R P WOLNEGO * BRASŁAWIA * ROKU 1792 (пячатка магістрату места Рэчы Паспалітай вольнага Браслава году 1792) напісаная вялікімі літарамі ўздоўж краю пячаткі і звонку ад выявы аддзеленая мусіць быць двайной лініяй. На пачатку легенды і паміж словамі пастаўленыя крыжыкі, а пасьля скаротаў - кропкі.

У верхняй частцы выявы разьмешчанае прамяністае Боскае Вока, а пад ім - сьв. Хрыстафор з кароткай накідкай. Ён ідзе ў левы бок, левай рукой трымаючы дзіду, правай - капялюш альбо невялікі шчыт. Твар павернуты да гледача. У сьвятога на плячах адлюстраваны голы дзіцятка Езус, што нібы лунае ў паветры. Ён правай рукой абапіраецца аб Хрыстафорава плячо, а левай трымае ўзьняты ўгару "яблык упады", што нагадвае вянок.

Пячатка авальная, памерам 58,5х52 мм.

Акты, на якіх бы стаяла гэтая пячатка, ня знойдзеныя.

Першым пра яе малюнак, не пазначаючы крыніцы, паведаміў у 1850 г. М.Балінскі. Можа быць, што аўтар выкарыстаў гарадскі штамп, які ў той час яшчэ мог быць у Браславе альбо якімсьці іншым зборніку. Праз 26 год Ф.К.Мартыноўскі, рыхтуючы другое выданьне вышэйзгаданай працы, перамаляваў Браслаўскую пячатку, зьменьшыў яе да памеру 47х41 мм, акрамя таго, нейк інакш разьмесьціў легенду і скараціў слова ROKU (году), напісаўшы толькі літару R (г.). Не выклікае сумненняў, што В.Віттыг, паведамляючы пра гарадскія пячаткі, Браслаўскую пячатку перамаляваў сабе з першай публікацыі М.Балінскага. Гэты малюнак захаваўся ў ягоным зборы (зборніку ў бібліятэцы Чартарыскіх у Кракаве). Пазьней малюнак Браслаўскай пячаткі патрапіў у іншыя выданьні, нават быў выдадзены ў якасьці літаграфіі на паштоўцы. Такім чынам, пакуль ня знойдзены арыгінал пячаткі места Браслава, найбольш важнай і вартай даверу крыніцай гэтай пячаткі застаецца публікацыя М.Балінскага 1850 г.

**Міхась Маліноўскі**

# Першая зброя нашага далёкага продка

Унікальную культуру сівой мінуўшчыны захавала зямля, вада, раслінны і жывёльны свет Браслаўшчыны. мы сёння ходзім і падчас не звяртаем аніякай увагі на гэта, асабліва калі пад нагамі ці побач бачым камяні. Нам нават не прыходзіцца здагадвацца, што яны былі першай зброяй далёкага нашага насельніка.

Зброя - гэта, без сумненняў тое, чым моцна ўздзейнічае адзін чалавек на свайго ворага з мэтай забіць яго альбо нейтралізаваць. А камень - гэта такая рэч, якую сама прырода дала яму ў рукі. І што самае простае ў ім - камень яшчэ быў у яго і прыладай працы, у паляванні, у першародным мастацтве (петрагліфы), у... вераваннях. Можна смела сказаць і ў ачалавечванні нашага далёкага продка, бо крэмені (крэмень - вельмі цвёрды камень) былі яшчэ і крыніцай агню, які істотна, эвалюцыйна ўздзейнічаў на гэтую жывую істоту.

Як адзначае вучоны Станіслаў Цярохін у сваёй кнізе "Перунова цяпельца" (1993 года выдання): "Але чалавек, відаць, даволі хутка навучыўся здабываць агонь з крэменю. Некаторыя першабытныя плямёны маглі адразу пачаць здабываць агонь з крэменю. Асабліва ў мясцовасцях з даўнімі традыцыямі вырабу з крэменю прылад працы і зброі (падкрэслена аўтарам). На Беларусі крэмень здабывалі ў шахтах ужо ў эпоху неаліту".

Падчас маёй службы на Далёкім Усходзе захаваўся ў мяне запіс: "Камень дакладней паражае, калі ўдарыць з размаху, з сілай кінуць, калі ў яго вострыя краі. Удараючы адным вялікім каменем аб другі, чалавек адколваў ад іх вострыя асколкі. Потым навучыўся абчэсваць камень разлічанымі ўдарамі, даючы патрэбную форму з дапамогай другога каменя".

Мне помніцца з дзяцінства, як лоўка шпурляў камяні ў цэлі Паша Чарнецкі, а адзін раз на ўласныя вочы бачыў, як ім ён патрапіў у качку на возеры Малочным, прынёс яе ў дзетдомаўскую кухню, дзе ў лоўкіх руках павярыхі цёткі Ліды была абшчыпана і апынулася ў баршчы.

Для кідання каменя і прыдання яму моцнай зброі першабытныя людзі прыдумалі шмат яго "гатункаў". Найпросты - камень прымацоўваецца да вяроўкі і лоўка кідаецца ці ў ворага, ці ў іншую цэль.

Другі варыянт, калі трэба захаваць прыладу, дык тады камень прымацоўваецца да доўгай вяроўкі (маны). Пры кіданні яго ў ворага, звера другі канец вяроўкі ўтрымліваецца ў руцэ, потым імгненна прыцягваецца зброя да сябе і зноў выкарыстоўваецца ў схопцы.

Найбольш удасканаленай з усіх гэтых прылад была прашча, якая складалася з вяроўкі ці з апрацаваных палосак скуры, шырэйшых у сярэдняй частцы. Адзін канец прыстасавання з іх быў гладкі, другі - з пятлёй. Камень, вырваўшыся з пятлі, мог забіць чалавека ці звера на адлегласці да 200 крокаў. Канешне, такому спрыту далёкі продак вучыўся з разуменнем, бо, каб выжыць, трэба было валодаць і кемлівасцю і лоўкасцю...

І яшчэ былі такія пражчы, калі расшчаплялася палка, куды забіваўся камень альбо іншы прадмет, якія рэзкім узмахам кідаліся ў патрэбную цэль.

Да гэтага "гатунку" зброі адносіцца і захаваўшаяся да нашых часоў бола (іспанскае bola перакладаецца як шар) - кідальная ваяўнічая і паляўнічая зброя індзейцаў Паўднёвай Амерыкі ў выглядзе рэменя з 2 - 3 канцамі, да якіх прымацаваны каменныя ці касцяныя шары.

Не будзем забываць, што і славутая літоўская булава, ці дакладней на нашай сялянскай мове сказаць дубіна, складалася найчасцей з дрэва і цвёрдых камянёў. Яе доўга вырошчвалі - у камелевую частку маладога дуба ці граба забівалі асколкі цвёрдых камянёў. Дрэва расло, камяні абрасталі драўнінай, патрэбную частку яго абразалі, дапрацоўвалі і атрымоўвалі грозную зброю. Як паказвае гістарычная літаратура, гетманскія булавы, скіпетры цароў, шастапёры, праўда ўпрыгожаныя (аздобленыя) - "немаўля" - ад звычайнай булавы.

Тапор, сякера, якія мы сёння ведаем, у першабытным стане мелі іншы выгляд. Гэта былі вострыя камяні з насадкай на рукаяці. Чым яны былі даўжэй, тым хутчэй можна было нагнаць ворага, звера і раніць, забіць яго, застаючыся на пэўнай і небяспечнай адлегласці ад жывой цэлі.

Арбалет - агромністы лук на станку - таксама спачатку страляў каменнымі шарамі, потым свінцовымі. У ў рэшце рэшт - стрэламі.

Як вядома, і першыя вогнестраляючыя прылады (арабскія модфы, еўрапейскія бамбарды), якія сёння мы завём артылерыяй, мелі на ўзбраенні каменныя ядры. Гэтыя ядры дасюль знаходзяцца ці ляжаць у тоўшчы шматпакутнай зямлі на Браслаўшчыне ды іншых мясцінах Беларусі.

У 1992 годзе ўбачыла свет адна з выдатнейшых кніг беларускага вучонага Эрнста Ляўкова "Маўклівыя сведкі мінуўшчыны". Як пішацца ў ёй: "На Беларусі любяць параўнанне: многа, як камянёў. Сапраўды, тут іх безліч. Камяні прынёс ледавік з далёкага Балтыйскага мора".

А мы дадамо: калі ласка, вазьміце ў свае рукі адзін з сустрэўшыхся вам камянёў і аднавіце ў сваёй памяці, як ён калісьці выкарыстоўваўся нашым далёкім продкам ці то ў змаганні, ці то ў абароне, альбо ў працы, або ў стварэнні нейкага незвычайнага мастацкага шэдэўра, ці ў пакланенні яму...

## *Помнікі Браслаўшчыны*



**Касцёл у в.Замошша. Фотаздымак 1930-х гадоў з архіва Юзафа Буйноўскага (1910-2001), польскага паэта, нараджэнца суседняй вёскі Аколіца. Драўляны храм быў спалены ў гады другой сусветнай вайны**



**Фрагмент выставы «Камяні і жыццё» у Браслаўскім гістарычна-краязнаўчым музеі. Каменныя прылады Браслаўшчыны**

# Малы залаты пярсцёнак Мёршчыны

**(Працяг. Пачатак у №6 снежань 2007 г. - №1 студзень 2008 г.)**

**Нагадаем, што маршрут распрацавалі і здзейснілі летам 2007 г. краязнаўцы мёрскай СШ№3 пад кіраўніцтвам Вітаўта Ермалёнка**



ПАДАННЕ АБ АЛЬТАНСКАЙ ГАРЫ. Раней на гэтым месцы стаяла вялікая вёска. У цэнтры яе стаяў палац. З-за таго, што ў ёй было шмат грэшнікаў і вёска і палац праваліліся скрозь зямлю. На гэтым месцы ўтварылася вялікая гара.Час ад часу з глыбіні чуліся стогны і крыкі людзей, мычанне кароў, спевы пеўняў. Калі хто аказваўся каля гэтай гары ў начы, то роўна ў поўнач з'яўляўся палац, а побач з ім, на лаве сядзела прыгожая паненка і разматывала пражу.

І хоць гэтыя мясціны былі багатыя на ягады і грыбы, мясцовыя жыхары імкнуліся іх абыходзіць. А яшчэ расказвалі людзі, што ў мінулым на гары былі пасаджаны вялікія і прыгожыя сады, дзе раслі разнастайныя экзатычныя дрэвы, а ў цэнтры стаяла прыгожая альтанка з каменя і моху. Вось чаму і празвалі гэты пагорак "Альтанская гара".

Перад пачаткам падарожжа мы пазнаёміліся з цікавым дакументам 1876 года - "Сведения о состоянии сельского хозяйства и промышленности в районе Григоровичского народного училищча", які захоўваецца ў музеі школы. Там адзначана, што ля маёнтка Панізова знаходзіцца гара, парослая сасновым лесам. Згодна паданням і ўспамінам старажылаў на ёй знаходзяцца ўмацаванні часоў шведскай вайны. Па іншай інфармацыі доўгажыхароў тут захаваліся ўмацаванні вайны 1812 года.

"Узброенные" наступнымі паданнямі мы па крутых схілах падняліся на пляцоўку гарадзішча. Візуальна значных пашкоджанняў культурнага пласта няма. Захаваўся нават знак пастаўлены ў 80-е гады мінулага стагоддзя. Уважлівы пошук дазволіў нам знайсці не толькі аскепкі керамікі, але і зусім нечаканай была знаходка кавалкаў кафлі XVI-XVII стагоддзя, што і пацвярджае легенду аб існаванні тут у мінулым , калі не палаца , то панскай сялібы. Недакладныя звесткі былі дадзены ў апісанні месцазнаходжання помніка вучонымі-археолагамі. Таксама ўдалося знайсці побач невядомае гарадзішча-сховішча таго часу.

ГАРАДЗІШЧА "АЛЬТАНСКАЯ ГАРА" Знаходзіцца за 600 метраў на паўднёвы ўсход ад хутара Панізова і 500 метраў на поўдзень ад левага берага ракі Заходняя Дзвіна. Вышыня ўзгорка каля 10 метраў, памеры выцягнутай з ўсхода на захад пляцоўкі 60 на 40 метраў. Гарадзішча ўмацавана трымаваламі і ровам. Унутраны вал вышынёй да 1 м і шырынёй 4,5 метры насыпаны па краі пляцоўкі. Два валы насыпаны на схіле. Глыбіня рова 0,2-1м.,шырыня - 1-3 м. Культурны пласт даволі моцны - ад 0,4 да 1,5 метраў, прасочваецца па ўсёй пляцоўцы. Гарадзішча адносіцца да позняга этапу днепра-дзвінскай культуры III-IV стст. н.э. Раскопкі на ім не праводзіліся.

Далей па палявых сцяжынках накіроўваемся ў Грыгаравічы. Сто год таму назад тут існавалі тры маёнткі: Сумарокава, Сіпайлы, Лісоўскага, фальварак Медунецкага, пражывала 53 жыхары. Было народнае вучылішча, школа граматы.У 1920 г. якраз тут адбыўся пачатак знакамітага наступлення 3-га кавалерыйскага корпуса Г.Гая. Корпус меў у сваім складзе 4097 шабляў, 46 станкавых кулямётаў, 20 гармат. Вось як апісвае ў сваіх успамінах гэтыя падзеі Г.Гай: *"У 7 гадзін раніцы 4 ліпеня, маланкія, але імклівыя палкі 3-га корпуса сканцэнтраваліся ля усходняй ваколіцы вёскі Забалацце, у 6 кіламетрах ад перадавой лініі фронту. З панскага двара Грыгаравічы, дзе быў палявы штаб корпуса, на аўтамабілі я паехаў да байцоў, каб выказаць ім пажаданні перад боем. Перасеўшы на каня, маю баявую "Ледзі", я ў суправаджэнні начальніка корпуса т.Вілумсона і ардынарцаў пад'ехаў да байцоў корпуса, гучна вітаючы іх. Ліхія камдзівы Матуленка і Томін пастроілі свае часці для заслухоўвання загаду камандуючага Заходнім фронтам. «Чырвоныя салдаты, настаў ваш час. Нашы войскі па ўсяму фронту пераходзяць у наступленне... У наступленні прымаюць палкі разграміўшыя Дзенікіна, Калчака, Юдзеніча. На абарону Савецкай ўлады сабраліся байцы з усходу, поўдня, захада і поўначы. Погляды ўсёй Расіі звернуты на Заходні фронт. Змучаная разбураная краіна адала ўсё для перамогі над ворагам. Дакажам на справе, што усе памкненні краіны былі недарэмны. Станавіцеся ў баявыя калоны, прабіла гадзіна для наступлення на Вільна, Мінск, Варшаву. Марш...» Не паспеў я зачытаць загад, як магутнае незамаўкаючае "ура" страсянула паветра, пераносячы яго да польскіх акопаў. Бух -бух, бух-бух - адгукнулася артылерыя корпуса. Згодна намечанаму плану артылерыя корпуса пачала падрыхтоўку. Наша контрнаступленне пачалося. Палкі і дывізіі корпуса хутка без мітусні накіраваліся па ўказаным маршрутам для разгортвання. Нас чакаў першы бой, першы ўдар, адкрываючы шлях да перамогі".*

Сёння самотна ўзвышаецца толькі царква, і вакол калгасныя палі. У царкве толькі зрэдку праводзіцца богаслужэнне. А калісь тут віравала жыццё, спявалі песні, тэксты якіх засталіся дзякуючы запісам 1876 года. Вось адна з прыпевак:

Да ўзышоў месяц над варотамі
Да ўзвёў заранspecific за сабою
Да пайшоў павідаць месяц
Да ніяк не відацьмесца за звёздамі
Толькі знаць ды відаць заранaчцы
Да ўзышоў Андрэй сам у ва двор
Да ўзвёў дружыну за сабою
Дай не знаць не відаць за сватамі

Толькі знаць да відаць па шапачцы
Што на ім шапачка, як жар гарыць
Да пад ім konічак, як страла ляціць
Да яго і дзеванька весела глядзіць.




**Тэрыторыя вандроўкі на латвійскай карце 1924 года**

Ад Грыгаравіч вяртаемся ізноў на Дрыгучы, але іншай, гравійнай дарогай. Да вёскі Алешчыцы вырашылі ехаць па старой дарозе на Лявонпаль, якая праходзіла па беразе Заходняй Дзвіны. Мясцовая назва гэтай дарогі - Круцік. Назва яўна вынікае ад стромкіх схілаў дарогі. Менавіта там, апавядалі мясцовыя жыхары, яшчэ застаўся брук. Так, сапраўды ён месцамі застаўся, але большая частка суцэльная гліна. Ад Круціка, ужо па палявых сцежках, лёгка дабраліся да Алешчыц. Тут нас чакала сустрэча з цікавымі суразмоўцамі - Барок (Лазоўскай) Домнай Антонаўнай, 1927 г. н., Верашчакай (Гацікай) Соф'яй Мікалаеўнай, 1943 г. н. Яны шмат расказалі нам аб Алешчыцах, школе дзе працаваў у 1939 г. Кузьма Крук, аб стражніцы польскіх паграднічнікаў. У стражніцы пражывалі асаднікі: Дрозд, Галіцкі, Скіба. Мясцовым жыхарам яны шкоды не рабілі, нават дапамагалі, калі здаралася якое няшчасце. Усе яны былі вывезены ў 1940 годзе ў Сібір. Адзін з іх, 16-гадовы Яўген Раманоўскі добраахвотнікам пайшоў у армію Андэрса, якая ваявала ў Італіі супраць фашыстаў і загінуў.

Пры выездзе з Алешчыцаў нельга было не зачаравацца прыгожымі краявідамі самага вялікага вострава на Заходняй Дзвіне. Дарога ў напрамку вёскі Узмёны цікавая тым, што ўвесь час прыходзіцца то падымацца на пагорак , то спускацца ўніз. Справа - блакітны пас Заходняй Дзвіны. Вось вёска Вінагроды. Назва паходзіць ад вінаграду, які паны разводзілі тут яшчэ ў XVI ст. Кнігу "Виногроды - Родина моя" аб гісторыі вёскі і лёсе яе жыхароў у XX ст. напісаў нараджэнец гэтых мя-сцін Снапок Леанід Філіпавіч. Выданне налічвае 764 старонкі, багата аздоблена фотаздымкамі, малюнкамі і вершамі самога аўтара. Леанід Снапок працуе будаўніком і жыве пад Санкт-Пецярбургам.

Не даязджаючы 1,5 кіламетры да Узмёнаў, недалёка ад берага Заходняй Дзвіны, знаходзіцца цікавы камень. У сваёй кнізе Л.Снапок апавядае аб ім цікавыя гісторыі.

ПАДАННІ АБ УЗМЁНСКІМ КАМЯНІ. Яшчэ французамі ў 1812 годзе ад гэтым камнем быў закапаны скарб. Знайсці яго можна было наступным чынам. У поўнач, пры святле месяца, трэба адлічыць ад ствала дуба 12 крокаў і там капаць. Апавядалі, што некаторыя смельчакі адважваліся капаць, але хутка іх агортваў такі жах, рабілася дрэнна, наваколле быццам акуналася ў белую пену, людзі кідалі рыдлёўкі і ўцякалі. Пад час другой сусветнай вайны ў аднаго ўзмёнскага гаспадара спыніліся немцы. Яны мелі з сабой карту па якой нешта вывучалі. Засталіся начаваць у гумне, калі гаспадар прыйшоў раніцой іх пакарміць, то нікога ўжо не было, а толькі як падзяка, жменя залатых манет. Ля камня і зараз можна бачыць сляды шукальнікаў скарбаў. У мінулым на ім можна было разгледзець вершніка з крыжом і лацінскія літары V i R. Па нашаму меркаванню хутчэй за ўсё тут знаходзіцца пахаванне XVI-XVII стст.

З ГІСТОРЫІ ВЁСКІ УЗМЁНЫ. Да гэтага часу засталіся прысады ад панскага двара. Спыняемся ля школы, якая ўзведзена на месцы царкоўна-прыходскай школы, пабудаванай ў 1889 годзе. У школе існуе цудоўны музей. Радзелы музея апавядаюць аб гісторыі вёскі Узмёны і наваколля ад старажытнасці да нашых дзён. Найбольш цікавыя экспанаты: крамянёвы наканечнік стралы IV ст. да н.э., каменная сякера II ст. да н.э., дамскі кашалёк XIX ст. са срэбранага дроту, дакументы XIX-XX стст. Побач са школай, ў засені вялікіх дрэваў, узвышаецца праваслаўная Свята-Мікалаеўская царква. Яна пабудавана з чырвонай цэглы ў 1871 г. ў псеўдарускім стылі. Аб'ёмна прасторавая кампазіцыя чатырохчасткавая: шатровая званіца, кубападобны нізкі бабінец. Асноўны аб'ём з чатырохсхільным дахам, пяцігранная апсіда з прыдзелам. Элементы архітэктурнага дэкору: ліштвы, лапаткі, аркатурны пояс, выкананы цаглянай муроўкай.

Як вядома, вядомы графік,мастак Напалеон Орда не пакінуў нам малюнкаў помнікаў архітэктуры нашага краю. Аднак можна сцвярджаць, што малюючы панараму палаца ў Юстыніянаве (зараз Верхнедзвінскі раён), які стаіць на правым беразе Заходняй Дзвіны, ён намаляваў і купал Узмёнскай царквы. Краявід можна пабачыць знаходзячыся толькі на левым беразе ракі. Выходзіць славуты графік вандраваў па старой дарозе, па якой зараз ехалі і мы.

ПЁТРА БЕЛАРУС. Пад такім псеўданімам пісаў наш зямляк Пётр Яленскі ў газету "Наша Ніва" свае допісы. Амаль няма звестак пра яго жыццё. Вядома, што ён жыў у вёсцы Міршчына Лявонпальскай гміны. Яго першыя карэспандэнцыі з'явіліся ў газеце ў 1913 г. Пятро Яленскі пісаў вершы, замалёўкі, жарты і іншае. Яго апавяданне "Якім Бяздольны" выйшла асобным выданнем у славутай друкарне Марціна Кухты ў Вільне. У творах "Чуткі з пад-Дзісны", "Убіўства", "У кузні", "Лекарства ад беднасці" ён выступаў супраць непісьменнасці і бескультур'я беларускай вёскі, уздымаў тэму сацыяльнай няроўнасці, паказваў нараджэнне ў свядомасці сялян пратэсту супраць парадкаў царскай Расіі. Апавяданні П.Яленскага ўвайшлі ў хрэстаматыіі па беларускай дарэвалюцыйнай літаратуры.

У пачатку XX ст. у Міршчыне жыло 33 жыхары (14 мужчын і 19 жанчын). Зараз на месцы былой вёскі калгасныя палі. Па нашаму меркаванню трэба абавязкова на месцы

Доўгі час аб нашай знакамітай землячцы Тэклі Урублеўскай мы ведалі толькі са скупых радкоў "Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі". Ствараючы раённую кнігу "Памяць" мы таксама не знайшлі новых матэрыялаў. Нават вялікія знаўцы літаратуры XIX ст. Адам Мальдзіс і Генадзь Кісялёў не змаглі нам дапамагчы. Некаторыя звесткі можна было атрымаць з працаў польскіх даследчыкаў Т.Туркоўскага, Т.Мікульскага.

Нядаўна вядомы беларускі літаратурзнаўца Мікола Хаўстовіч на аснове сабраных па крупінцы матэрыялах, прааналізаваў літаратурную спадчыну Тэклі Урублеўскай. Гэтыя даследванні і сталі асновай нашага артыкула.

# ТЭКЛЯ УРУБЛЕЎСКАЯ

Тэкля Урублеўская (дзявочае прозвішча Бажымоўская) нарадзілася ў 70-я гады XVIII стагоддзя. Месца нараджэння дагэтуль невядома. Род Бажымоўскіх гербу "Лада" паходзіць з Мазавецкай зямлі, дзе яны мелі маёнтак Бажыма. Станіслаў Бажымоўскі служыў у войску і мужна змагаўся пад штандартамі гетмана Хадкевіча і Радзівіла. Пасля ім былі набыты зямельныя ўладанні на Полаччыне. Не выключана, што Тэкля можа мець паходжанне і ад роду Бажымоўскіх гербу "Бялыня". Адам Бажымоўскі з гэтага роду пасяліўся на літоўскіх землях ў пачатку XVIII ст. Прадстаўнікі гэтага роду прымалі актыўны ўдзел у рэфармацыйным руху, былі святарамі і вельмі адукаванымі людзьмі. Унучкай аднаго з сыноў Яна Бажымоўскага, які не стаў святаром, магла быць Тэкля. Так што таямніца яе паходжання пакуль застаецца.



**Сафо (каля 650 г. да н.э. - 1-я палова I ст. да н.э.), выдатная паэтка антычнасці, кумір Т.Урублеўскай**

Дзе і якую адукацыю атрымала Бажымоўская, таксама невядома. Дзяўчаты ў тыя часы вучыліся ў хаце. Дакладна вядома, што Тэкля Бажымоўская выйшла замуж за шляхціца з-пад Дзісны Урублеўскага ў самым пачатку XIX ст. Як нам вядома, шляхецкі род Урублеўскіх быў шырока разгалінаваны на Дзісеншчыне.

Яшчэ да замужжа яна падрыхтавала зборнік вершаў "Вясковыя гульні". Аб гэтым згадваў у 1806 г. у сваіх успамінах вядомы ў той час літаратар і паэт Ігнат Быкоўскі. Віленскія піяры, да якіх звярнулася паэтка, не адважыліся надрукваць творы невядомай аўтаркі. Тады яна звярнулася да Ігната Быкоўскага з просьбай аб рэцэнзіі, які надалей надрукаваў больш дзесятка яе кніг. Мы не ведаем, што адказаў вядомы пісьменнік, але тое што ён прыхільна іх ацаніў, сведчаць тры вершы, якія ён выпісаў для сябе і далучыў да свайго жыццяпісу. І.Быкоўскі наладзіў асабістыя кантакты з паэткай, наведваў яе ў Дзісне. Але па невядомай прычыне, згаданы зборнік не быў выдадзены. Толькі Тэкля Урублеўская не спыніла сваёй творчасці. Аб гэтым сведчаць успаміны пісьменніка А.Э.Адынца, які спасылаецца на Людвіка Папроцкага , які асабіста ведаў Тэклю з Бажымоўскіх. "Яна была ўжо сталага веку, удава, арэндавала даволі вялікі маёнтак, але здаўшы гаспадарку на сястру, сама займалася выключна паэзіяй, практыкуючы яе і ў штодзённым жыцці. Заўзятар перадусім грэцкай паэзіі і гісторыі, Т.Урублеўская злучала сябе з Сафо. Апраналася як грэкі-спартанцы, па-мужчынску, заўсёды маючы на скронях накшталт грэцкага шлема, ці хутчэй дыядэмы. У садзе мела альтанку на ўзор грэцкае святыні, без сцен, на калонах. Улетку, як Сібіла на трыноззе, яна звычайна сядзела ў крэсле на ўзвышэнні і глядзела за забавамі вясковай моладзі, якія сама для сябе кожнае свята ладзіла на ўзор грэцкіх гульняў, а пасля сама раздавала ўзнагароды. Запрошаныя суседзі мелі магчымасць пачуць яе творы. З прычыны, што яна была гасціннаю,ветлівай і міласэрнай, да яе ахвотна наведваліся, любілі і шанавалі."

У 1815 г. Тэкля Урублеўская пачынае другую спробу надрукаваць свае творы, на гэты раз, сваім коштам. Захаваўся яе ліст да Ю.Завадзкага: "Вяльможны Пане Дабрадзею! Даруй... што хоць і незнаёмая абцяжарваю Цябе сваім зваротам. Ша-нуючы ў дзейнасці вяльможнага пана асобу, якая клапоціцца пра павялічэнне асветы сярод народа, адважваюся папрасіць каб меў ласку паведаміць мне пра кошт друку аркуша ў віленскай тіпаграфіі. Я хачу выдаць дзве мае ўласныя трагедыіі: адна называецца "Пантэя, каралева Сузы", а другая - "Мустафа і Зеангр" і дзве перакладзеныя мною з французкай мовы "Астарбэ " і "Каліста - прыгожая пакутніца" пана Калярдо. Калі не захавала духу трагедыіі, калі можа дзе парушыла правілы драмы, няхай даруюць мне як кабеце, а часам як чалавеку з рук якога рэдка што дасаканала выходзіць". Выдавец даў адказ паэтцы з каштарысам, але відаць ён яе не задаволіў і паэтка надрукавала свае творы ў друкарні ксяндзоў-місіянераў. Праз два гады яны і выдалі яе арыгінальныя творы, пераклады з французскай так і не былі выдадзены. Трагедыя "Пантэя -каралева Сузаў" напісана на аснове вядомай гісторыі Герадота.

Творы нашай паэткі не засталіся без увагі крытыкаў. У 1921 г. у Варшаве Ян Савіньскі адзначыў паэтычныя здольнасці паэткі з Дзісны, але ў асноўным рэцэнзія была крытычнай як з пункту гледжаня мовы трагедыіі, так і да яе зместу.

Першыя надрукаваныя творы натхнілі Т.Урублеўскую на напісанне новых твораў. Наступнай стала трагедыя "Нарымунд", заснаваная на мясцовай гісторыі. І гэтая кніжка таксама была



**Дзісна ў XIX ст.**

**Вітаўт Ермалёнак**

выдадзена ўласным коштам пры падрымцы яе сяброў і сваякоў. Сярод іх: дзісенскі маршалак Казімір Буйніцкі, маршалак Міхаіл Храпавіцкі, суддзя Фердынанд Бажымоўскі , Канстанцыя Бажымоўская, Станіслава Палюбінская з Бажымоўскіх. Асаблівая падзяка была жонцы брата, якая займалася гаспадарчымі справамі ў маёнтку Урублеўскай, пакуль апошняя займалася літаратурнай творчасцю.

Сюжэтам новай трагедыі Урублеўская абрала ўрывак з кнігі А Гваніні "Хроніка Еўрапейскай Сарматыіі" 1578 г. А.Гваніні - італьянец па паходжанню, ротмістр войск ВКЛ, удзельнік Лівонскай вайны, камендант Віцебска.У сваёй кнізе ён не толькі апісаў падзеі ў якіх быў удзельнікам, але і старажытную гісторыю Літвы для гэтага выкарыстоўваючы летапісныя матэрыялы. У фрагменце хронікі адзначана, як Уценскі князь Даўмонт захапіў нявесту свайго брата Нарымонта і ажаніўся з ёй. Пачалася міжусобная барацьба паміж братамі. Ратуючыся ад Нарымонта Даўмонт уцякае з жонкай ў Пскоў, дзе гараджане выбіраюць яго сваім князем. Адтуль ён робіць набегі на Полаччыну. Зараз гістарычная навука разглядае гэтую гісторыю пра князя Нарымонта як міфічную. Сучасныя гісторыкі атаясамліваюць гэты міф з князем Міндоўгам, які пасля смерці сваёй жонкі, забраў сабе жонку брата Даўмонта, які ўцёк ў Пскоў і адтуль адпомсціў свайму крыўдзіцелю, падаслаўшы да яго забойцаў. Але Тэкля Урублеўская пісала не гістарычны, а літаратурны твор. " Калі падала што не так, няхай чытачы маюць ласку памятаць, што я пісала трагедыю, а не гісторыю народа".

Для нас галоўнае, што яна адна з першых звярнулася да роднай гісторыі. Сюжэт трагедыіі наступны: дачка рускага князя (так ў летапісах называюць полацкіх князёў) Братыслава, каб памірыць варагуючыя бакі вымушана выходзіць замуж за Нарымонта - вялікага князя літоўскага. Але ёй больш падабаецца яго брат Даўмонт. Узаемнае каханне было настолькі моцным, што Даўмонт выкрадае Братыславу і прывозіць яе ў замак Уцяны, каб тут узяць шлюб. Пракседа - сяброўка князёўны імкнеццца адгаварыць яе ад шлюбу:

*Паслухай , што табе , напэўна ў апошні раз скажу*
*Ты дачка Князёў Рускіх праўду табе выкажу*
*Павінна дзяліць з Нарымунтам ложа*
*Будзеш сапраўды праслаўлена тады*
*Калі прынясеш супакой для Рускай і Літоўскай зямлі*
*Каб зброя, якая нас не можа з'яднаць*
*Перастала нас непаакоіць, пустошыць , кроў нявінную праліваць*
*Каб Русін і Літвін адгэтуль жылі ў згодзе*
*Праслаўлялі тваё імя пры кожнай хаціне*
*Калі ж адрачэся свайго прызначэння*
*Сваім каханнем прынясеш столькі ўсім клопатаў*
*Ведаеш сама, што тваім уцёкам я была супраць*
*Але і гэтым тваім кроку цябе не заставіла.*
*Цярпела, што нашчадак такога слаўнага роду*
*Служыць толькі каханню, пазбягае адазнасці*
*Гэта ўспамінаючы не раз горкія слёзы пралііеш*
*Што патапіла лёс падзеі сваім каханнем.*

Але Братыслава і слухаць не жадае пра абавязак перад Радзімай, пра дзяржаўныя інтарэсы.Тады сяброўка прыводзіць апошні аргумент, нельга браць шлюб у гадавіну смерці маці. Гэта яе пераконвае, і князёўна просіць свайго каханага адлажыць шлюб. Нарымонт прысылае ў гэты час да Даўмонта свайго палкаводза Мантывіда, які абвінавачвае яго, што той пасягнуў на чужую ўласнасць. Даўмонт апраўдвае свой ўчынак каханнем.

Даўмонт яго не слухае і Нарымунт разбурае Уцяны, захоплівае ў палон Братыславу і загадвае Мантывіду адшукаць Даўмонта жывога ці мёртвага, сам імкнецца дабіцца ўзаемнасці ад Братыславы, якую ён кахае і з-за якой пачаў братазабойчую вайну. Князёўна, паверыўшы ў смерць каханага ёю Даўмонта, просіць Нарымунта адасланць яе на радзіму, дзе яна заўсёды будзе аплакваць свайго каханага. У гэты час прыводзяць палоннага Даўмонта і Нарымонт жадае за здраду жорстка пакараць брата. Братыслава ўгаворвае князя адпусціць яе каханага. Нарымонт абяцае адпусціць Даўмонта і нават яго ўзнагародзіць,калі той адмовіцца ад Братыславы і заставіць яе прыняць шлюб з Нарымунтам. Сустрэўшыся з Даўмонтам князёўна прапануе адзінае на яе погляд выйсце - самазабойства абодвух. Але дарадца Даўмонта прусак Бухгард не жадаючы далейшага ўзмацнення Літвы прапануе Даўмонту па-здадніцку забіць брата. Калі той адмаўляецца, прусак сам смяротна раніць Нарымонта. Даўмонт вырашае назаўсёды пакінуць родны край і ад'ехаць у Пскоў. Аднак перад сканаННем Нарымонт прасіў не пакідаць радзіму, застацца тут панаваць дзеля магутнасці Айчыны:

*Не адпускаю вас. Не хачу перашкаджаць лёсу,*
*І за вашу шляхетнасць дрэнна ўзнагародзіць*
*Жагнаю цябе Пані часам успамяні мяне міла,*
*І хоць адну слязінку пралі на маёй магіле,*
*Бо пад час жыцця ўсе злачынствы супраць брата і сваіх паданых*
*З-за кахання да цябе выходзілі*
*І ты Даўмонт схавай ў сваім сэрцы крыўды,*
*Якія я табе не аднойчы прыносіў*
*Слухай Манівіда майго сябра*
*Абараняй межы нашы і будзь гарантам праўды*
*Разам з ім будзь на варце нашага прыгожагаг краю*
*Бо я на заўсёды зараз цябе пакідаю*
*Няхай жа шчасце да Літвы пасняшае*
*Нарымонта попел ў труне пацяшае.*

Завяршаецца трагедыя Урублеўскай намерам Даўмонта споўніць апошні запавет брата.

Цікава, што кожная з трох выдадзеных кніг Урублеўскай ўтрымлівала паэтычныя раздзелы, дзе аўтарка змяшчае свае вершы. Асабліва можна вызначыць з іх "Да сну", "Паніч малады","Да асобы", сатырычныя "Жанчыны","Да месяца","Да маей ваверкі" і інш.

З апошняга нам вядомага ліста Тэклі Урублеўскай ад 10 жніўня 1835 года да выдаўца Ю.Завадзкага мы даведваемся аб яе просьбе даслаць творы Ф.Купера "Чарашніца" і "Піянер", а для кузена Тамаша Івашкевіча - "Стэпы". Пералік ужо набытых ею кніг і пажаданых для набыцця даволі вялікі. Сярод іх "Гісторыя Польшчы" І.Ляляведя, паэма "Лара" Д.Байрана, творы Э.Красіньскай, А.Брадзінскага і інш. Усё гэта сведчыць аб тым, што наша зямлячка па ранейшаму жыла літаратурай, цікавілася яе навінкамі, не толькі на польскай мове, але і французскай. Тым самым яе сядзіба па-ранейшаму была буйнейшым культурна-асветніцкім цэнтрам на Дзісеншчыне. На жаль, пасля 1835 г. больш пра нашу зямлячку звестак не выяўлена.

Па рознаму можна ацэньваць творчасць Тэклі Урублеўскай. Відавочна, што для XIX ст. яе асоба паэткі-драматурга, перакладчыка і выдаўца застаецца выдатнай постаццю калі не сусветнага масштабу, то важкай для развіцця літаратуры на Беларусі. Памяць аб ёй не павінна зайсці ў нябыт.

« ПАВЕТ » DISTRICTUS
ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ

Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.
Выдаецца з ліпеня 2001 г.

Адказны за выпуск: Кастусь Шыдлоўскі
г.Браслаў, вул.Кастрычніка 11-10, тэл. 21-4-28
E-mail: brasmc@vitebsk.by

Над нумарам працавалі: Кастусь Шыдлоўскі, Аляксандр Панцялейка, Валеры Буко

Выдадзена пры дапамозе цэнтра выдавецкіх ініцыятыў «Сумежжа» (Паставы)